# МІЖНАРОДНАЯ ХРОНІКА

Здымкі саюз фото



П.А.З.Ш. Па вуліцах Вашынгтону сланяюцца дзесяткі, сотні тысяч беспрацоўных — вэтэранаў вайны. Яны патрабуюць работы, таксама компэнсацыі за іхні ўдзел у імпэрыялістычнай вайне.



Германія. Юрыдычна „забароненыя“ выступленьні нямецкіх штурмавых атрадаў у апошнія дні сыстэматычна працягваюцца. На здымку парад гітлераўцаў каля Бэрліну.



П.А.З.Ш. Беспрацоўныя музыканты Амэрыкі пад кіраўніцтвам дырыжора Стокорскага пратэстуюць супроць забароны вольных концэртаў на бульварах і скверах гарадоў.



Германія. Пры ўдзеле лепшых рабочых-вэлёсыпэдыстаў Берліну, Парыжу і другіх гарадоў, у Бэрліне адбыліся міжнародныя вэлёсыпэдныя спаборніцтвы.



Германія. Нямецкія паліцэйскія мячом і агнём „заспакойваюць“ беспрацоўных На здымку шасьцігадовы Гайнц Масі, паранены ў жывот і руку паліцэйскімі кулямі.



Германія. Па ўсёй Германіі адбыліся мітынгі, прысьвечаныя міжнароднаму дню пролетарскай солідарнасьці. Гэтыя мітынгі праходзілі пад лёзунгам барацьбы супроць вайны, голаду і фашызму.

Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЛІПЕНЬ 1932

№ 14

АЛЕСЬ ЛІПНЁВЫ

# ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОЎ

Калгасны стаж Андрэя Хвашчэўскага тры з лішкам год. Роўна столькі, колькі налічвае ад дню свайго нараджэньня калгас „Рой". Уступаючы ў калгас Андрэй Хвашчэўскі апроч усяго здаў у калгасную касу—чатырыста семдзесят сем рублёў і трыццаць чатыры капейкі—грошы, атрыманыя з Дзяржстраху за страты ад пажару.

Грошы ёсьць. Запісаны на яго Андрэяў пай. Калгасу дапамога. Калгас мацнее—Андрэю лепш. Якая ёсьць прычына, каб шкадаваць?—Няма гэткай.

Разам з ростам калгасу вырастаў і пашыраўся бюджэт Хвашчэўскага. Працуючы толькі адз'н (дзеці яшчэ малыя), атрымаў ў сваё распараджэньне гарод; харчы для сваёй каровы; конюх Хвашчэўскі атрымаў пры разьмеркаваньні прыбыткаў—жыта 55 пудоў, столькі-ж бульбы, пшаніцы дзесятак пудоў, ячменю. Іншыя неабходныя прадукты, грошы для куплі адзежы, атрыманыя на працягу года—ня ў лік.

Ці ёсьць з чаго Андрэю Хвашчэўскаму быць нездаволеным? Калі жыцьцё калгаснае лепшае чымся жыцьцё дакалгаснае! А ўсё Андрэй Хвашчэўскі нездаволены і нават моцна абражаны. Паслухайце толькі яго...

... Я няпісьменны, але-ж я хачу працаваць у калгасе. Ды буду працаваць! Як лепш возьмуцца—лепш яно й выйдзе. А яны вось газэты чытаюць, а спаліяць ня хочуць... Вось і вазьмі. Да... Вось гэта і кепска. А так, па мойму, каб ён мне прачытаў і сам добра працаваў...

Андрэй выпісаў газэту. Адразу на ўвесь год. Хочаш з ім сябраваць—чытай уголас газэту. Не прачытаную газэту—за закрутку на табаку—скарыстоўваць ня маеш правоў. Старэйшым дзецям—Васілю, які ходзіць ужо ў чацьвертую групу і Хведарку—адказная нагрузка—чытаць бацьку газэту.

Андрэй нават абразіўся, калі ў яго запыталі ці ёсьць у яго аблігацыі пазыкі. Ды як-жа гэта можа так быць, каб прэміяваны гарнітурам калгасны канюх, грамадзянін, які выпісаў газэту адразу на ўвесь год, хай ён да прыкладу будзе нават і няпісьменны, ды каб ня меў аблігацый? Зразумела—ёсьць! Пяцігодка ў чатыры гады. Выпуск бяспрацантны.

Вось яны акуратна загорнутыя ў белы паркаль шэсьць штук, па пяць рублёў кожная. Па праўдзе кажучы было іх сем штук, ды адна выграла ў тыражы. Ці то пяць, ці то траячку.

— Выйгрышы гэта паміж іншым. Асноўнае ня гэта...

Асноўнае—вялікія выйгрышы. Вось да прыкладу выйгрыш—аграмадныя карпусы новай запалкавай фабрыкі, што ўначы пераліваюцца агнявымі маністамі ў застыглых хвалях ракі Бярозы, ці дрэваапрацоўчы камбінат, ці, напрыклад, новенькі калгасны сьвінарнік і што яшчэ лепш—уноў будуючаяся калгасная стайня. Хіба-ж гэта ня выйгрышы?

Усе гэтыя выйгрышы вакол яго, Андрэя, старога калгасьніка „Роя", іх бачыш вачавідкі кожны дзень і кожны дзень з імі сустракаешся. Вось падпісаўся Андрэй на калгасную насенную пазыку, даў 10 пудоў бульбы. Сяўбу калгас скончыў у тэрмін. Дык хіба-ж гэта ня выйгрыш? А тое, што Васіль канчае чатырохгодку, а сьледам за ім Хведарка. Што дзеці пісьменнымі будуць—хіба ня выйгрыш?

З ростам калгасу, з разгонам калгасных палявых прастораў, шырыліся гарызонты кругазору Андрэя. І цяпер падпіска на пазыку для калгасьніка Андрэя мае адменнае, большае выключнае значэньне—дапамога дзяржаве аб якой можна так проста сказаць, такія верныя словы:

— Дзяржава гэта мы! Гэта я разам з Вамі!

Хіба можна пералічыць Андрэяў, калі Андрэі пераклікаюцца па ўсёй краіне, калі Андрэі—множаць падпіску на пазыку супроць сотні процантаў.

Падпіска на пазыку „4-ы завяршальны" на фабр. „Кастрычнік"



МАЛЮНКІ ФЕНЮКА

# квартырмэйстар БАДАЙ

*Апавяданьне*

**МІХАСЯ ЛЫНЬКОВА**

— Цывілізацыя...—і рудыя, паскусаныя вусы хмура павісьлі ўніз, яміны шчок, пакрытыя зямлістай загарай, запалі яшчэ глыбей. І толькі нос—бярыся от рукой, ня зломіш—нахабам лез наперад, тызаўся ва ўсе бакі, соваўся ў кожны куток паходнай двуколкі.

— Нос у цябе, браце, ня нос, а замок ад гарматы.

— А з якога канца заражаць будзеш?—агрызнуўся нос.

Засьмяяўся. Быў ён сапраўды—гэты высокі і сухі як жардзіна квартырмэйстар Бадай—падобны на доўгую зэнітную гармату.

— Стрэліш тут з гэтых харчоў... Каб то добра, а то ўсякую поскудзь французскую даюць ім жэрці. Французы, браткі, яны не дурні, усякае барахло палякам падсунуць... Цы-ві-лі-зацы-я... ліха-б на іх...

Злосны быў квартырмэйстар Бадай на французскую „цывілізацыю". І не здарма. Па-першае, абрэзаў сабе палец аб каробку консэрваў. Былі яны ўчорашнімі трофэямі, захапілі ў Варанавічах цэлыя склады. Польскай арміі консэрвы і прысланы яны былі з далёкай Францыі. І, да рэчы, нікудышныя консэрвы, гужавыя, бычыныя—нажом не ўкалупіць—сухія і нясмачныя, у нязвыклых чатырохкутных банках з чужой пісанінай. Да таго-ж яшчэ палец аб іх абрэзаў...

Гэта раз. А па-другое, паспытаў Бадай і французскае кулі з самае сапраўднае французскае вінтоўкі. А былі тыя вінтоўкі французскія ў польскіх салдатаў, у якіх былі яшчэ і французскія гарматы, і чаравікі французскія, і французскія мінамёты, і самалёты французскія, і кулямёты. Афіцэры і тыл трапляліся французскія. Трапляліся, праўда, і ангельскія.

І хоць куля тая французская была і прыгожага колеру—як сунічка тая ў дзень ясны—хапіла чна хвацка за бадаеўскае плячо, так цмокнула сакавіта, што пралежаў Бадай не адзін дзень і ня два за шырокай Бярозай. А адлежыўся, у полк падаўся. А тут яму і сказалі:

— Ідзі, голуб, квартырмэйстарам будзеш. Не табе з рукой адной ротай камандаваць. Ідзі папраўляйся, глядзі і рука адыйдзе.

Ну што-ж, квартырмэйстрам, нахай квартырмэйстрам, на тое-ж яна дысцыпліна.

Але добра сказаць—квартымэйстарам... Абоз... Другі разрад... Палкавыя капцёры... Душы цэйхаузныя... Хіба ў штыкі з імі на банкі тыя консэрвныя.

І злосны Бадай. Заўсёды злосны.

Ляжыць пад двуколкай вось, калупае ў зубах—толькі-ж што кавалак адсунуў—ды ўзіраецца ў далёкае блакітнае неба, што раскінулася празрыстасьцю ліпеньскай над сашой, над полем, над пыльнымі кустамі, пад якімі схаваўся абоз ад назойлівых воч самалётаў. Плывуць па небу пярэхмаркі, белыя, курчавыя. Падплываюць пад сонца і нікнуць, таюць, распадаюцца на беласьнежныя кудзеркі. А пад імі, у блакітнай бездані, гуд шмяліны гудзе. Паспрабуй, разьбярыся тут вокам простым, ці свае то ці чужыя? Але клопат вялікі, хоць-бы і чужыя—на такой вышыні ня страшныя, ня кусьлівыя. Не аб іх думаць зараз, не аб іх трывожыцца. Вунь куюць па кавадлах глухіх, па кавадлах тых багатырскіх. І гукі тыя як гром, як навальніца тая, што з-за лесу ідзе, насуваецца чорнай сызяной. Глухія гукі і працяглыя: ударыць раз і адрыгнецца раз і сухім трапятаньнем працінаецца пыльная пеляна зямлі. І, здаецца, небавая сінь от расколецца на кавалкі і рушыцца ўніз ашкалёпкамі вострымі, крышталёвымі. Працінаецца трапятаньнем зямля і ўздыхне, і ўздых той цяжкі і сумны, з кароткім уздыгам: у-у-у-х... гух...

— Ну й б'юць! От сыпяць!

— Каму толькі насыпяць?

Ніхто не адказвае. Ня варта языкамі часаць, калі выюць гарматы, калі захліпаюцца ў шалёным рогаце кулямёты, ды калі вой гэты і рогат усё бліжэй і бліжэй. Твары чырвонаармейцаў спакойныя, урачыстыя. І кожнаму справа ёсьць. Мо' адпачыў-бы хто, ды няёмка неяк. Н'ёмка, калі захліпаюцца кулямёты. І хто сядзёлку чыніць, хто воза майструе, хто аглядае падковы ў каня—ці ня зьбіліся на сашы, на каменнай: А ў ружэйна-кулямётным чысьцяць здабыткі ўчорашнія—кулямёты французскія.

— От саданула, брат, увесь шчыт як на рэшата. Нябось узараў кулямётчык носам зямлю, праглынуўшы шрапнэлю...

— Узараў... Не адзін з гэтым кулямётам узараў, усе нумары засталіся на месцы...

Ляжыць Бадай і цяжкая злосьць ападае, нібы шматкамі тымі спаўзае, брудными, закарэлымі...

...Захліпаюцца кулямёты...

— А ну, прыгатуйся, ды каб коням быць напагатове.

А ў самога ў думках: „і чорт іх ведае з штабу таго, калі то надумаюцца загад аддаць, шчэ' патрапіш у госьці да белых, пападзешся голенькі"...

І ўжо ходзіць Бадай, правярае двуколкі, што з хлебам, з махоркаю, з цукравымі мяшкамі пад брэзэнтамі прапыленымі. Што з патронамі, вінтоўкамі, кулямётамі. Выстаўляе за ўзгоркі, за нізіны балотныя вартавыя дазоры: усё можа быць, усё можа стацца, хоць уперадзе й нашы. Ці мала што... Захліпнуліся кулямёты за лесам. Захліпнуліся і змоўклі раптам, нібы па ўгавору няпісанаму. І цішыня, старожкая і ўрачыстая, павісла над полем, над сашой, над парасьнікам, над балотам. Толькі тахкаюць, бумкаюць сіратлівыя стрэлы вінтовак, то заціхаючы, то зноў рассыпаючыся частым гарохам па вялікаму, ніколі ня бачанаму бубну.

— Цяпер, брат, вуха войстра! Трымай на прыцэле!



У воблаках пылу паказаўся расхрыстаны капцёр...

ВАЛЕРЫ МАРАКОУ

# ПАВОДКА І ПОЭТА
## РАСПЛАЧВАЕЦЦА ЗА МАЛАДОСЬЦЬ

Шуганула сонцам.
Ударыла цёплым ветрам
зьнячэўку,
І пайшло і пайшло —
без граніц
цераз берагі.
Хвалі наладзілі
нячуваную сьпеўку —
Гэта вясна-чараўніца,
мой дарагі.
Падставім грудзі
блакітнаму промню,
Пяшчоце яго
і гневу яго.
Дружба й змаганьне
усходу нязломных,
А песьні
маёй і тваёй дарагой, —
гэта адчуй і запомні...
Ў сэрцы людзкім,
як пад сьнегам і лёдам
Б'ецца жывы
і гарачы струмень.
Разам з вясною
ламаць перашкоды
Дадзена нам
і мы возьмём свой дзень.
Мой голас узрос
у дажджох і туманах
І вочы сваю
не растрацілі сінь,
І я не падстаўлю
пад сэрца нагана,
Каб чорнаю плямай
прайсьці у жыцьці.
А час праміне
беспадстаўна і жорстка.
Сьпяваў,
захапляўся
і славіў вясну.
Я выканаў песень сваіх
прадразьвёрстку,
А права прыдбаць
хоць-бы змог на адну.
Дзівак!
Ты сташ у асьвятленьні
вясны нястомнай,
Ты любіш жыцьцё
і ты творыш жыцьцё,
Каб грала поэмай яно
многатомнай,
Як грала калісьці
тваё пачуцьцё.
За ўсё, што належыць табе
й наканована,
За жорсткасьць эпохі,
за дружбу жанчын,
За ночы пакуты
жыцьцём непадкованай
Ты будзеш плаціць
і плаціць не адзін.
Прачнешся аднойчы,
і глянуўшы ў люстра
Адчуеш, як кроў халадзее
ў грудзёх.
Стары! —
І „смешно, если-б не было грустно"
Тады пашкадуеш разгубленых дзён.
Пройдуць на фабрыку раньнем
суседзі,
Сонечны зайчык
між іх прабяжыць,
Ты-ж будзеш
сваё чалавечае „kredo".
Пальцамі крытыкі
браць на нажы.
Мы будзем судзіцца
па песьнях і справах
І мы вось не скажам,
як дальні поэт:
„Трыста год славы
за добрую страву,
За смачна табой
згатаваны абед" [1]).
Мы знаем за што нам змагацца,
ў што верыць,
І мы, набываючы сталасьць,
вядзем
Разводзьдзе вясны
агнявое
наперад,
Як стройныя шэрагі слаўных поэм.
З якім захапленьнем,
з якою трывогай
Кіпіць за работай
тут кожны куток,
Каб проста і сьмела
праходзіць дарогай,
Дзе толькі праходзіў
учора прарок.
Вось мне не патрэбна
ні славы, ні грошай,
Ня слава мільёны
вяла пад агонь.
Мне толькі-бы знаць,
што для юных
харошых
Я змог працаваць,
як замылены конь.
У сэрцы людзкім,
як пад сьнегам і лёдам
Б'ецца жывы
і гарачы струмень,
І мне,
хіба толькі,
нязнанага шкода,
Што чорным агнём
атручала мой дзень.
Наступнаму-ж усё
ахвяруй без адчаю.
І жорстка праўдзівы
і кволы заўжды
Эпоху ўзьнімай
баявымі плячамі,
Каб заўтра праз шчырасьць,
зямлю і гады
Цябе, як жывога,
як сына страчалі.
Ты рос са стыхіяй —
з вясной і паводкай,
І сёньня,
кратаючы сонца крыло,
Выводзіш абрысы
сваёй пяцігодкі,
Каб, можа,
дарогаю самай кароткай
Трухлявую спадчыну
весьці на злом.
Ты меней зямлі
і старэй рэволюцыі,
І сёньня,
юнацтву сказаўшы „бывай",
Ідзеш і ўліваешся ўсімі пачуцьцямі
у бурнай вясны залаты карнавал.
І калі зразумееш,
што справе аддадзена
Наша юнацтва
(бяз крыўды бяры!)
Устане яно агнявой аграмадзінай
Так-жа, як мора ўстае на зары.
Шуганула сонцам,
ударыла цёплым ветрам
зьнячэўку
І пайшло і пайшло —
без граніц
цераз берагі.
Хвалі наладзілі нячуваную сьпеўку, —
Гэта вясна-чараўніца, мой дарагі...

---

1) Гэтыя словы сказаў Вольтэр, зразумела пасьля сытнага абеду.

# НА ПАБУДОВЕ МЕНСКАЙ ЦЁПЛАЭЛЕКТРАЦЭНТРАЛІ

*НАРЫС* АЛЕСЯ ДУДАРА
ФОТО І. САЛАВЕЙЧЫКА

Мы ўмеем добра ўлавіць часамі зусім дробныя дэталі нашага будаўніцтва, паказаць іх у новым і цікавым асьвятленьні і даць жывы малюнак таго, як з дробязяў вырастаюць найвялікшыя рэчы. Але, як гэта ні дзіўна, здараюцца выпадкі, калі вялікія рэчы, буйныя зьявішчы выпадаюць чамусьці з поля нашага зроку і ня выклікаюць часамі да зарэзу патрэбнай увагі.

Яшчэ зусім нядаўна на гэтым месцы ня было нічога. Стаяла, праўда, некалькі шэранькіх, замызганых знадворку і ўсярэдзіне халупінак, у іх заклапочана гудзелі прымусы, пахла кіслаю капустаю і гэты пах, зьліты з іншымі гаспадарчымі пахамі, ствараў сымфонію тае нярухомае, закарэлае прытульнасьці, якая, як ня трэба лепш, пасавала аднаму з найбольш захудалых кварталаў аднаго з самых захудалых губэрскіх гарадоў Расійскай імпэрыі.

Рэволюцыя ўзяла горад за бакі, дала яму адказную годнасьць сталіцы Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і з няўхільнай рашучасьцю патрабавала ад яго кожны момант пэўнай адказнасьці за гэтую яго новую годнасьць. Рупліва і скэптычна аглядзіўшы яго паедзены часам і неахайнаю гаспадаркаю організм, яна акуратна пачала ачышчаць яго заімшэлую скуру ад усякіх нарастаў, якія перашкаджалі яму расьці, а як сталіцу—кампрамэтавалі. У стройным парадку пасыпаліся на сьметнік труxлявыя халупінкі, саступаючы шматпавярховым прыгожым і сьветлым будынкам, новым заводам і фабрыкам, празьвінела ахрыплым званком санавітая, заслужаная конка, пасыпаліся кавалькі бруку, памятаўшага яшчэ часы цара Батуры—горад, расьпёрты з сярэдзіны сталёвай энэргіяй рэволюцыі, разросься за некалькі год так, як у іншых умовах ня вырас бы і ў стагодзьдзе.



Начальнік пабудовы Т Э Ц т. Сьвірыдаў

На старую худзенькую і да канца замотаную электрастанцыю новыя буйныя прадпрыемствы, будынкі, франтаваты, але солідны трамвай даўно пачалі касавурыцца. І калі часам старчая адышка паралізавала на момант яе змардаванае сэрца, трамваі з пакрыўджаным выглядам спыняліся на вуліцах і, магчыма, на сваёй трамвайнай мове горка наракалі на сваё існаваньне і зьедліва падкрэсьлівалі, што нават 6000 кілёватэнэргіі занадта малая для гораду з амаль 200-тысячным насельніцтвам.

І тады вось на гэтае месца зьявіліся заклапочаныя дзелавыя людзі, недаверліва абмацавалі грунт, прамерылі ўздым і на гарсавецкім пляне Менску на дзялянцы ад заводу Варшаўлапа прымерна і амаль да Чэрвенскага тракту за лініяй чыгункі зьявілася адзнака

**„Будаўніцтва Менскай Цёплаэлектрацэнтралі“.**

Цёплаэлектрацэнтраль—гэта дзіця апошніх часаў тэхнікі. Прынцып яе заключаецца ў тым, што, выпрацоўваючы электрычную энэргію, яна не адкідае тую вельмі значную колькасьць цяпла, якая застаецца ў адпрацаванай пары, але падае гэтае цяпло туды, дзе яно можа быць яшчэ скарыстана, у выглядзе гарачай на 40-50°—вады, а таксама і пары. Гэты прынцып навейшых замежных цеплавых электрастанцый быў праверан і ўдасканалены на станцыях Масквы і Ленінграду і цалкам апраўдаў сябе, даўшы вялікую экономію апалу і зрабіўшы больш таннаю электраэнэргію.

К жніўню 1931 году гатовы былі тэхнічныя проекты пабудовы Менскай Цёплаэлектрацэнтралі і пачалася непасрэдная падрыхтоўка да будаўніцтва. Для гэтага перш за ўсё трэба было ачысьціць пляц, перасяліць жыхароў замызганых халупінак у іншыя кватэры, пазносіць самыя халупінкі, перанесьці існаваўшыя там драбнюткія прадпрыемствы і перадаць у РСІ справу аб сваяасаблівых адносінах такой установы, як Белдзяржбуд да справы будаўніцтва Цёплаэлектрацэнтралі. Магчыма, работнікі Белдзяржбуду ў прынцыпе і згаджаліся з патрэбнасьцю гэтага будаўніцтва, але склады свае пераносіць на іншае месца не жадалі і, калі першыя партыі матэрыялаў для будаўніцтва зваліваліся на пустырах поруч з прыстасаваньнямі для гэтага і пустымі складамі, яны глядзелі на гэта абыякава, уважаючы, што справа гэта не датычыць да іхнага ведамства. І давялося РСІ даць ім некалькі аўгорытэтных тлумачэньняў. Тлумачэньні гэтыя стварылі ў справе некаторы прыцэдэнт, які павінен быў-бы забясьпечыць у будучыне большую пашану да справы будаўніцтва новага энэргетычнага сэрца чырвонай сталіцы. Гэта аднак ня ўмеркавала „імпэрыялістычных“ імкненьняў адміністрацыі фабрыкі „Комунарка“ ў адносінах да адведзенай гарсаветам для будаўніцтва тэрыторыі. Калі ўсе дыпляматычныя аргумэнты былі вычарпаны, імпэрыялісты з „Комунаркі“ пачалі інтэрвэнцыю. Яны разбу-



Досьледы глебы



Месца пабудовы галоўнага корпусу ТЭЦ. Зьлева фабрыка „Комунарка"

рылі плот, пастаўлены адміністрацыяй будаўніцтва на спрэчнай тэрыторыі. Будаўніцтва цярпліва паставіла плот гэты зноў. Але калі супрацоўнік „Чырвонай Беларусі" сядзеў у начальніка будаўніцтва, тав. Сьвірывава і слухаў слаўную аповесьць пра гісторыю будаўніцтва, паступілі весткі, што пачалася новая паласа „інтэрвэнцыі". І на трэск паламанага плата, на пагражаючы званок тэлефону, тав. Сьвірыдаў, былы партызан, замаркочана, але рашуча заявіў:

— Досыць дыплёматыі. Накіраваць справу ў РСІ.



Тут вырастуць новыя корпусы ТЭЦ

Кошт гусяе пабудовы Цёплаэлектрацэнтралі вылічаны ў 24-25 мільёнаў рублёў. Перад будаўніцтвам стаіць задача разгарнуць сапраўды бальшавіцкія тэмпы—Цёплаэлектрацэнтраль павінна быць здадзена ў эксплёатацыю к канцу другога квар-талу 1933 году. Дзеля гэтага перад будаўніцтвам найвастрэй паўстае пытаньне аб сродках, аб матэрыялах. А з фінансаваньнем справа стаіць пакуль што досыць туга. Пры пачатку работ было асыгнавана 1.500.000 рублёў ды яшчэ 600.000 з



Ачыстка мясцовасьці ад сьмецьця. Брыгада землякопаў т. Сухоцкага

мясцовага бюджэту. Зараз „Энэргацэнтр" вызначыў быў яшчэ 5 міліёнаў рублёў, але потым зьменшыў да трох. Такім чынам будаўніцтва пакуль што прымушана перабівацца на мясцовых сродках.

Досыць напружанае становішча і з матэрыяламі. Пакуль што падрыхтавана матэрыялаў на 600 тысяч рублёў. Але зусім здавальняючай зьяўляецца толькі колькасьць лясных матэрыялаў. Будаўніцтву патрэбна 3000 тон цэмэнту,1700 тон арматурнага жалеза, шмат цэглы патрэбна будаўніцтву—і здабываць усё гэта даводзіцца з нязвычайнымі цяжкасьцямі. Будаўніцтва ўключана ў разрад будаўніцтваў агульнасаюзнага значэньня, але ня прынята на цэнтралізаванае снабжэньне.

Каб закончыць з большага пералік найвастрэйшых на бліжэйшы час для будаўніцтва пытаньняў, нельга моўчкі абыйсьці справу з кадрамі. Будаўніцтва мае зараз толькі 2 інжынэраў, тады, калі іх патрэбна было-б ня менш як 5. Сваімі сіламі падрыхтоўваць патрэбныя кадры няма часу—застаўся толькі год.

І вось у гэткіх умовах праходзіць падрыхтоўка да найшырэйшага разгортваньня асноўных будаўнічых работ. Пакуль што орг нізавана жыльлёвая плошча для работнікаў будаўніцтва і будучай Цёплаэлектрацэнтралі—пабудаваны баракі, сталоўка на 600 чалавек, закладзены падмурак 48-кватэрнага дому, заканчваецца дом для служачых.

Разгортваньне работ затрымліваецца адсутнасьцю рабочых гысункаў, якія замарынаваў Ленінградзкі „Цёплаэлектрапроект". Дырэкцыя Цёплаэлектроцэнтралі адносіцца да гэтага досыць абыякава і асабліва на Цёплаэлектрапроект не націскае, памятаючы, мабыць, прадзедаўскае выслоўе: „скоры посьпех людзям насьмех". Аднак у гэтым яшчэ годзе на будаўніцтве мяркуецца скончыць цэлы шэраг асноўных будынкаў. Да канца году будзе пабудаваны галоўны корпус Цёплаэлектрацэнтралі да 55 тысяч кубамэтраў, разьмеркавальнае абсталяваньне, часовая электрастанцыя, пільня, часовае пажарнае, склады, майстэрні і шэраг другіх сталых і часовых дапаможных будынкаў. Зараз пракладзена 1200 мэтраў чыгуначнай лініі—да канца году пад'ездныя шляхі будаўніцтва дойдуць да 4 кілёмэтраў. Апрача гэтага зараз будзе праведзена часовая вузкакалейка, арганізавана каналізацыя, вадаправод, тэлефонная сетка. Выкананьне гэтага пляну дае цьвёрдую надзею на тое, што праз год сталіца Савецкай Беларусі будзе цалкам забясьпечана электрычнаю энэргіяй і цяплом.

Цяжка цяпер устанавіць колькі „срэбранікаў" прыліпла да пачцівых рук шаноўных „айцоў гораду" ў часе пабудовы старой Менскай электрастанцыі, але сумнявацца ў гэтым факце ня прыходзіцца. Здатная, ня гледзячы на малы свой разьмер, да ўсякіх пакасьцяў Сьвіслач неаднакрaць давяла, што будаваць станцыю на такім неабароненым ад паводак месцы мог або ідыёт, або жулік. Магчыма мы не пагрэшым супроць гісторыі, калі дапусьцім што „айцы гораду" прадстаўлялі сабою сынтэз гэтых дзьвёх катэгорый. У выніку, у кожную паводку Менск становіцца перад пагрозай застацца без энэргіі. Месца, выбранае для новай Цёплаэлектроцэнтралі назаўсёды забясьпечвае Менск ад вясновых забаў Сьвіслачы. Галоўны корпус будзе стаяць вышэй за лінію найбольшых уздымаў вады і нават больш блізкія да рэчкі дапаможныя будынкі будуць абсталяваны так, што ніякая паводка ня выкліча нават хвіліннага перабою ў працы Цёплаэлектрацэнтралі.

Першая чарга Цёплаэлектрацэнтралі дасьць 24000 кілёват—у 4 разы больш, чымся сучасная станцыя і на 4000 кілёват больш, чымся першая чарга Асінстану. У другой чарзе гэтая колькасьць энэргіі будзе даведзена да 36000 кілёват. Электрычная энэргія будзе падавацца на радыус у 38 кілёмэтраў з далейшым пашырэньнем да 110 кілёмэтраў. Цяпло будзе давацца на адлегласьць да 4 *км* і ў першую чаргу ім будуць абслужаны ўсе заводы Ляхаўкі, вакзал, дом ураду, унівэрсытэцкі гарадок і наогул увесь раён прыблізна да вул. К.Маркса—Савецкай. Прымаючы пад увагу 6000 кілёват старой электростанцыі, можна лічыць, што ў наступным годзе Менск будзе мець да 30000 кв. электроэнэргіі—досыць солідная база для далейшага разгортваньня гораду.

Апал для Цёплаэлектрацэнтралі будзе дастаўляцца з Судобольскіх торфараспрацовак, дзе запасы торфу па падліках спэцыялістаў гарантуюць бесьперабойную працу Цёплаэлектрацэнтралі на 25 гадоў.

Трэба дадаць яшчэ той многазначны факт, што ўсё абсталяваньне Цёплаэлектрацэнтралі будзе савецкага вырабу. Ніводнага замежнага цьвічка ня будзе ў гэтым сэрцы пролетарскай сталіцы—усё будзе зроблена сваімі ўласнымі рукамі.

* * *

Жоўты сьвежы насып чыгункі ўпаўзае ў белую, пахнучую смалою, браму і роўнаю шырокаю паласою цягнецца паўз старыя дрэва. З левага боку ад насыпу—мешаніна штабялёў дрэва, старых і новых баракаў, складаў, дапаможных, лёгкіх будынкаў. Сіратліва дажываюць свой век некалькі старых

хацінак, вызваленых ужо ад жыльцоў. У іх зьмяшчаецца кантора будаўніцтва, рабачком, аддзел кадраў і г. д. На самым высокім пункце тэрыторыі будаўніцтва стаяць яшчэ 2-3 халупінкі зусім ужо дагістарычнага тыпу—іх ужо і перанесьці нельга. Для жыльцоў гэтых халупак яшчэ не падрыхтавана новая плошча і таму на фоне агульнай абстаноўкі будаўніцтва раптоўна кідаюцца ў вочы вяроўкі, увешаныя хатнім барахлом і зусім не дзелавыя фіранкі на вокнах.

Людзі на будаўніцтве мала прыкметны. На вялізарнай тэрыторыі будаўніцтва цяперашнія 170 рабочых губляюцца, затуляюцца грудамі будаўнічых матэрыялаў, рассыпаюцца па далёкіх об'ектах будаўніцтва.

Брыгада землякопаў Сухоцкага працуе па капаньню гнёздаў для вадаправоду. Старэйшаму ў гэтай брыгадзе, здаецца, ледзь за 20 гадоў і так молада зіхацяць на сонцы туга налітыя пруткія мускулы, і так энэргічна ўрываюцца ў гліну рыдлёўкі і так рытмічна ўзьлятаюць у паветра камлыгі пяску і гліны. Брыгада лічыцца ўдарнаю, працуе напорна і акуратна: у яе ня бывае прагулаў, ня бывае ніякіх зрываў і за кожную работу бяруцца яны з аднолькавым энтузіязмам. Працуюць яны на будаўніцтве з самага пачатку і мяркуюць застацца тут да канца. Учора частку сяброў брыгады прымалі ў саюз. Прадстаўнік рабачкому зачытываў анкеты і пытаўся ў сяброў брыгады думкі пра таго ці іншага кандыдата. Адказы былі даволі стэрэотыпнымі—„працуе па-ўдарнаму, трэба прыняць"—і кожны кандыдат, чуючы пра сябе такія водгукі, адпраменіваў ад сябе нейкую ўпэўненасьць, што так яно і ёсьць, што гэта не кампліменты яму гавораць, называючы яго сапраўдным ударнікам, а толькі аддаюць належнае яго працы.

Кідаецца ў вочы даволі стракаты нацыянальны склад рабочых будаўніцтва. Тут украінцы, беларусы, палякі, яўрэі, вялікарусы. Пераважная частка—сэзоньнікі, кваліфікаваных рабочых—бэтоншчыкаў, арматуршчыкаў і г. д.—пакуль што яшчэ мала. На будаўніцтве існуе гурток па падрыхтоўцы арматуршчыкаў і бэтоншчыкаў, што ў далейшым значна палегчыць працу па ўкамплектаваньні будаўніцтва кваліфікаванаю рабочаю сілаю.

Справа з культурна-бытавым абслугоўваньнем рабочых пастаўлена досыць добра. У інтэрнатах прасторна, сьветла і чыста, для прыбываючай рабочай сілы падрыхтоўваюцца новыя памяшканьні. К сьвяту 1-га мая ўдарная брыгада, створаная па ініцыятыве комсамольскай ячэйкі, закончыла сталовую на 600 чалавек, дзе рабочыя за 45-50 капеек маюць зусім ня кепскі полудзень.

Будаўніцтва абвясьціла сябе суцэльна пісьменным. Тыя няпісьменныя і малапісьменныя, якія прышлі на будаўніцтва на сэзонную працу, вернуцца з яго зусім пісьменнымі—на



Пабудова кватэр для спэцыялістаў ТЭЦ

будаўніцтве няпісьменных няма і над традыцыйнымі трыма крыжкамі настаўлены канчатковы крыж. У адпаведнасьці з нацыянальным складам рабочых заняткі з імі праводзяцца ў беларускай, расійскай, польскай, яўрэйскай і украінскай мовах.

Ёсьць на будаўніцтве і партыйная ячэйка—18 чалавек—якая праводзіць значную працу ў кірунку політычна-грамадзкага выхаваньня сэзоньнікаў і дабілася ўжо некаторых вынікаў у сэнсе павышэньня актыўнай увагі рабочых да пытаньняў будаўніцтва, да барацьбы за выкананьне прамфінпляну. Але трэба сказаць, што ячэйка яшчэ не настолькі дае сябе адчуць на будаўніцтве, як гэта павінна было-б быць. Комсамольская ячэйка таксама яшчэ дужа маладая, з нязначнаю партыйнаю праслойкаю.

* * *

Некалькі гадоў таму назад на гэтым месцы ня было нічога, апрача некалькіх замызганых халупінак з прымусамі, фіранкамі і моцнымі замкамі на патрухлелых, паедзеных часам дзьвярах. Сёньня сюды ўгрызаюцца жоўтыя палосы насыпаў, тут вырастаюць груды рознай формы розных будаўнічых матэрыялаў, зямля праедзена раўчакамі вадаправоду, катлаванамі падмуркаў, студнямі шурфаў. Заўтра жалезныя косьці арматуры абрастуць тут бэтоннымі мускуламі, закруцяцца турбіны і гулка заб'ецца новае гарачае моцнае сэрца перабудаванага рэволюцыяй Менску. Адзін толькі год напружанай працы, нязломных бальшавіцкіх тэмпаў і вырасьце яшчэ адзін з шматлікіх довадаў таго, што могуць стварыць пролетарскія рукі, калі яны будуюць новы, нячуваны на зямлі лад.

КРЫМСКАЯ АССР. ПАРК АДРАМАНТАВАНЫХ КОМБАЙНАЎ, АРГАНІЗАВАНЫ Ў АДКАЗ НА ПАСТАНОВУ ЦК І СНК



МАЛЮНКІ ПАШКЕВІЧА




*Комэдыя Р. Кобеца і Ан. Вольнага*

Рэдакцыя часопісу „Чырвоная Беларусь“ з гэтага нумару пачынае друкаваць антырэлігійчую п'есу-сатыру А. Вольнага, Р. Кобеца, „Ратуй божа“.

### ДЗЕЯ I.

#### Абраз 1.

Месца дзеяньня—пекла. У памяшканьні чалавек трыццаць мужчын і жанчын чысьцяць боты. На 15 прымусах стаяць вялікія патэльні. Чорт, падобны да прыказчыка, нешта падлічвае на счотах. Сярод прысутных. Пушкін, Франклін, Ціміразеў, Гогаль, Галілей, Капэрнік, Ньютон, Вальтэр, Гайнэ ды іншыя.

Пушкін чысьціць боты і сьпявае:

Пушкін: Забудет мир меня,
Но ты, ты, Ольга,
Сердечный друг,
Желанный друг
Придешь ли ты
Пролить слезу над ранней урной?—
И скажешь: он меня любил, он мне единой посвятил
Рассвет печальный жизни бурной.

Чорт: Цішэй, Аляксандр Сяргеевіч, цішэй. Усёроўна Вольга ня прыдзе. А калі бог пачуе, зноў патэльню прымусіць лізаць.

(Стук у дзьверы).

Хто там?

Голас (за дзьвярыма): Я... да вас прышоў, нешта спытацца (кашляе).

Чорт: Заходзьце. (Уваходзіць чалавек). Ты хто будзеш?

Пупочак: Абывацель я...

Чорт: (паварачваецца да ўвайшоўшага напалову). Месца няма.

Пупочак: (разгублена). Дык куды-ж мне падацца?

Чорт: Сказана месца няма, значыцца няма. Праходзь далей... Скажы там, каб цябе ў рай зьмясьцілі.

Пупочак: (радасна). Дзякую.., Шчыра дзякую... (выходзіць).

Чорт: Гаспадзін Гогаль. Ня люблю я абывацеляў. Гэта людзі з пароды тых, аб якіх вы ў „Мёртвых душах“ пісалі. Няхай сабе ў раю неба копцяць.

(Зноў стук у дзьверы).

Голас: (за дзьвярыма). (Пяе).

Эх, в лесу при долине
Звонко пел соловей,
А я мальчик на чужбине
Позабыт от людзей...

(Чорт прыслухоўваецца, потым адчыняе дзьверы).

Чорт: А ну, ну... Хадзіка сюды. (Уваходзіць бяспрытульны).

Ты хто будзеш?

Бяспрытульны: А ты хто будзеш?!

Чорт: Я чорт.

Бяспр: А... а... а... Я Ванька-сьвіст... Здароў чорт. Дык гэта пра цябе кажуць, што не такі страшны чорт, як яго малююць.

Чорт: Цябе хто накіраваў сюды?

Бяспр.: Сам накіраваўся... З раю уцёк. І дачаго-ж там народ нудны. Ня людзі, а хадзячыя пясочніцы... (пяе).

Позабыт—позаброшен
С молодых юных лет
Я остался сиротою
Счастья, доли мне нет...

А гэта хто тут у цябе, стары чорт? А-а-а-а... Аляксандр Сяргеевіч Пушкін. Добры дзень, Аляксандр Сяргеевіч...

Пушкін: Здравствуй племя молодое, незнакомое... Ты адкуль мяне ведаеш?..

Бяспр.: Па помніку ведаю... Я пад вашым помнікам бычкі страляў.

Пушкін: И долго буду я народу тем любезен,
Что чувства добрые в народзе пробуждал...

Бяспр: Я і вершы вашы ведаю, Аляксандр Сяргеевіч... Файныя вершы ў вас былі... Памятуеце вось гэтыя радкі:

Товарищ зверь: взойдет она—
Заря пленительного счастья...

Ой забыўся... як далей?..

Пушкін: Расія вспрянет ото сна
И на обломках самавластья
Напишет наши имена...

Памятую, таварыш, памятую Ванька-сьвіст... І яшчэ памятую:

Народ мы русский позабавим
И у позорного столба
Кишкой последнего попа
Последнего царя удавим...

За гэтыя радкі мяне чорнасотнікі ў пекла засадзілі...



— Я пад вашым помнікам бычкі страляў

Бяспр. (хлопае Пушкіна па плячу): Эт... Нічога, Аляксандр Сяргеевіч... Не сумуйце... Мы вас не пакрыўдзім. А гэты верш вы ведаеце?.. (пяе).

Гоп са смыкам—гэта буду я...
Да-да...
Вы меня паслушайте друзья...
Да-да...
Ремесло избрал я кражу
Из тюрьмы я не вылажу...
Спец па ширмам это буду я...
Да-да...

Ведаеце хто іх напісаў?

Пушкін: Не, ня ведаю... Я за апошні час адстаў ад літаратуры.

Бяспр.: Гэта я напісаў, Аляксандр Сяргеевіч. За гэтыя вершы мяне былі і ў рай пасадзілі. Ніколі цяпер гэткіх пісаць ня буду. А то яшчэ зноў у рай пападу... О-о-о-о глядзі. Ціміразеў. Здароў, дзядзенька Ціміразеў. Ну вось я вам навіну цікавую скажу.

Ціміразеў: Якую?

Бяспр: Помнік вам у Маскве паставілі. Як толькі вы памёрлі, дык і паставілі... На Тварскім бульвары. Па суседзтву з Аляксандрам Сяргеевічам. Як гэта бальшавікі дазналіся, што вы і ў пекле будзеце суседзямі?..

Чорт: Эй ты, падшыванец... Не перашкаджай людзям працаваць

Бяспр.: Не шкабарчы... Не шкабарчы, стары чорт... Трэба-ж з людзьмі пазнаёміцца. Вось хто гэта, напрыклад?

Пушкін: Гэта Капэрнік. Вось Галілей... Дарвін, там далей, бачыш Франклін сядзіць.

Бяспр. (задумаўся): Франклін... Франклін. Нешта прозьвішча знаёмае. Франклін.

Пушкін: Ды гэта той самы, што грамаадвод зрабіў.

Бяспр.: А—за... Я і гляджу што прозьвішча знаёмае. У раю яшчэ чуў... І да чаго-ж яго прарок Ільля крые. Грамаадвод, кажа, погань нейкая выдумала. Усю камэрцыю падаравала... Дык вось які народ тут сабраўся. Галілей, Капернік, Ціміразеў, Франклін, Пушкін, Гогаль, давайце знаёміцца... Я Ванька-сьвіст... А вы Сьцёпку шпунта ведаеце? Ня ведаеце? Шкада. Таварыш мой. Хлапец во! На вялікі палец. Але ён яшчэ ў раі.

Галасы (з боку, за другімі дзьверамі). Кідай, таварышы... Хопіць. Напакутваліся (вялікі гоман).

Чорт: Што за лямант? А ну цішэй. Гэта вам не карчма, а пекла... Так, так. А ну цішэй.

(Адчыняюцца бакавыя дзьверы, уваходзіць чалавек пяць мужчын і жанчын).

Жанчына: Вось ён...

Мужчына: Ты-ж чаго за парадкамі не глядзіш?!

Жанчына: Да якой гэта пары пакутваць мы будзем?

Чорт: Цішэй... У чым справа?

Жанчына: Бастуем... Вось у чым справа. Хопіць. Дзе гэта вы бачылі, каб па дзесяць гадзін у суткі працаваць даводзілася? Чаму вэнтылятараў няма?.. Чаму спэцвопраткі не даюць?.. Чаму ў дом адпачынку не пасылаюць? Дзе ахова працы?

Чорт: Ну чаго раскудахталася? На тое яно і пекла, дзесяць гадзін працы. Гарачыня... Няма аховы працы. Пекла і нічога ня зробіш.

Жанчына: Як гэта ня зробім. Ды я на тваёй галаве, чорт ты паласаты, зараз чапялу расчаплю... Эксплёататар ты... (хапае чапялу і кідаецца да чорта). Біце яго, людзі добрыя...

Галасы: Бі яго... Рогі яму выкруціць трэба...

Чорт: Людзі добрыя, пашкадуйце... Мне-ж самому, што загадваюць, тое я і раблю... У мяне таксама начальства ёсьць. Зьвяртайцеся да сатаны...

Жанчына: Давай сюды Люцыпара... Давай сатану. Ды хутчэй, хутчэй. Пакуль чапялой не абагрэла...

Чорт: Зараз, у адну хвіліну... (выбягае).

Жанчына: Бачыце як хутка пабег?.. З імі, з гэтымі старымі чарцямі, толькі так і гутарыць трэба... Вунь ідзе і сам Люцыпар. Глядзіце-ж дружна трымайцеся (уваходзіць Сатана ва фраку і цыліндры).

Сатана: Што за крыкі? Хто тут дэбошы ўчыняе?

Жанчына: Ня дэбошы, парадкі хочам навесьці. Абрыдла пакутваць...

Сатана: А чаму-ж гэта вы тут так пакутуеце?

Галасы: Горача... Аховы працы няма... Дзесяцігадзінны працоўны дзень... Далоў...

Сатана: Ціха. Раскрычаліся як на кірмашу. Ну хто там нездаволены пякельнымі парадкамі? Падымай рукі.

(Усе падымаюць рукі). Так... Усе значыць... Ну што-ж, давайце пагаворым. Я думаю, у нас усё ціха абыйдзецца. Ну вось ты хто будзеш?



— Ідзіце зноў на зямлю, каб вашай нагі тут ня было

Кітаец. Кітаец я...

Сатана: Прозьвішча.

Кітаец: Сін-Лі-Сян.

Сатана: Дзе працаваў, калі жыў на зямлі?

Кітаец: На чайных плянтацыях...

Сатана: Колькі гадзін у суткі?

Кітаец: Шаснаццаць гадзін.

Сатана: Колькі раз давалі есьці і што?

Кітаец: Дзьве жменькі рысу.

Сатана: Тэкс... Ну, а ў нас у пекле колькі гадзін ты працуеш?

Кітаец: Дзесяць гадзін.

Сатана: А сколькі разоў даюць есьці?

Кітаец: Тры разы ў дзень.

Сатана: Тэкс... З табой хопіць... Наступны (ткнуў пальцам). Ты хто?

Індус: Бен-алі-Мара. Індус.

Сатана: Раскажы, дзе ты працаваў?

Індус: Працаваў таксама па шаснаццаць гадзін у суткі... еў адзін раз... і то гнілыя бананы... памёр з голаду...

Сатана: Досыць. Наступны. Ну, хто ты? Адкуль родам?

Амэрыканец: Амэрыканец. Андэрс... Працаваў на шахтах у Кардзільерах... і ў Каліфорніі.

Сатана: З чаго памёр?

Амэрык.: Засіліўся я... У нас эканамічны крызіс. Апошнія гады быў бяз працы. Ну і ня вытрымаў... Засіліўся...

Сатана: Тэкс... А тут у пекле, табе праца ёсьць?..

Амэрык.: Ёсьць...

Сатана: Вось тое і яно (зварочваецца да жанчыны). А ты?..

Жанчына: Працавала ў Менску. На заводзе Варашылава. Сем гадзін у суткі... Два тыдні адпачынку, альбо курорт. Спэцвопратка, сталоўка. Дзеці ў яслях.

Сатана: Хопіць. Маўчы. Няма чаго тутатка, камуністычную агітацыю разводзіць.

Жанчына: Як гэта маўчы? Я не пазбаўлена права голасу. Ня лішэнка якая-небудзь...

Сатана: Ціха. Вось што я вам скажу. Вы амэрыканец, індус і кітаец. Калі вы і надалей тутака ў пекле будзеце бунтаваць, калі вам тут дрэнна, ідзіце зноў на зямлю. Каб вашай нагі тут ня было...

(Усе трое схіляюць галовы).

Голас: Што праўда, то праўда, яно нам тут лепей.

# НАПЯРЭДАДНІ АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ ОПЭРЫ

*НАРЫС ЛЮБАНА*
*фото РЫВІНА І САЛАВЕЙЧЫКА*

Макет пастаноўкі „Кармэн" маст. Зусмана



Беларуская дзяржаўная студыя опэры і балету пасьля году свае акадэмічнай працы пачала вытворчую работу. Першая пастаноўка опэрнай студыі—твор кампазытара Жоржа Бізэ „Кармэн".

Гэтую перамогу опэрнай студыі трэба разглядаць у цеснай сувязі з нашым агульным гаспадарчым і культурным ростам, з ростам усяго музычнага фронту БССР.

У 1932 г. у Савецкай Беларусі адчыняецца музычны ВНУ з рабфакам (Менск), адчыняецца яшчэ адзін музычны тэхнікум (Гомель) і некалькі музычных школ. У гэтым годзе Менскі музычны тэхнікум выпусьціў каля 50-ці музыкаў, сьпевакоў інструктараў, пры чым большая частка гэтых кадраў улілася ў шэрагі опэрнай студыі. Усе музычныя ўстановы БССР ідуць на дапамогу опэрнай студыі ў выкананьні пастановы пленуму ЦК КП(б)Б пра стварэньне ў Беларусі свайго опэрнага тэатру.

Опэрная студыя заснаваная ў канцы 1930 г. за два гады сваёй работы вырасла ў жорсткай клясавай барацьбе за генэральную лінію партыі, у барацьбе з адхіленьнямі ад ленінскае нацыянальнае палітыкі, у барацьбе з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе, і контррэвалюцыйным беларускім нацдэмакратызмам. Беларуская дзяржаўная студыя опэры і балету ўзяла цьвёрды курс на стварэньне арыгінальнай беларускай опэры на тэмы сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР, адначасова правільна праламляючы ў сваёй практыцы крытычнае скарыстаньне спадчыны мінулага.



Сцэна з „Кармэн". Арт. Балоцін і Александроўская.

У 1931 г. студыя паказала опэру Рымскага-Корсакава „Залаты пеўнік", як вострую палітычную сатыру на самадзяржаўе, на дом Раманавых. Кожнаму хто бачыў „Залаты пеўнік" і ў гэтым годзе ўбачыў „Кармэн" зусім відавочным творчы рост калектыву опэрнае студыі цалкам і яе паасобных студыйцаў. Пастаноўка опэры „Кармэн" зьяўляецца фактам творчага росту опэрнай студыі, зьяўляецца рашучым крокам па шляху ажыцьцяўленьня гістарычнай пастановы пленуму ЦК КП(б)Б.

Наколькі пастаноўка „Кармэн" зьяўляецца крокам па шляху ажыцьцяўленьня гэтай пастановы? Наколькі пастаноўка сьведчыць пра творчы рост опэрнай студыі? Наколькі мы гатовы, каб студыю ператтварыць у опэрны тэатр? Гэтае пытаньне я стаўлю ў сваім артыкуле.

Опэрная студыя ў пастаноўцы „Кармэн" аднавіла цэлы шэраг купюр, якія звычайна прапускаюцца прыежджымі опэрамі (цэлы шэраг надзвычайна прыгожых кадраў) і акрамя гэтага ў пастаноўку ўведзены ўрыўкі сымфанічнага твору Бізэ „Арлезіен" мэнуэт і фарандола, пад гэтую музыку ў апошняй дзеі „Кармэн" ідзе балет.

Па ступені падрыхтаванасьці і якасьці выкананьня сваіх партый трэба ацаніць удзельнікаў опэры наступным чынам: 1) аркестр пад кіраўніцтвам І. Гідгарца, 2) салісты і сьпевакі, 3) хор і 4) балетны ансамбаль.

Аб дадатных баках і недахопах пастаноўкі „Кармэн" на старонках нашага друку столькі ўжо пісалі, што яшчэ аб гэтым пісаць, гэта азначае паўтарацца. Трэба яшчэ падкрэсьліць нядобраякасную работу мастака Зусмана па афармленьні опэры (канструкцыі і касьцюмы) і ня зусім прадуманую работу балетмэйстэра Крамарэўскага, які зрабіў народнае сьвята на сцэне, з прычыны бою быкоў, у той час, калі гэта нічым не апраўдана.

Пралетарская грамадзкасьць Менску, асабліва пэрыфэрыя, ведае толькі аб існаваньні студыі і аб яе пастаноўках, і зусім амаль ня ведае пра тыя кадры, якія выхаваны ў музычным тэхнікуме, якія вырасьлі ў опэрнай студыі і зараз зьяўляюцца багатым матар'ялам для опэрнага тэатру.

Ёсьць моцны касьцяк аркестрантаў з маладняка, скончыўшых музтэхнікум,—гэты маладняк зьявіцца базай для арганізацыі сталага опэрнага аркестру.

Ёсьць цэлы шэраг сьпевакоў-салістаў, якія пры далейшай упартай працы над сабою, як з боку акадэмічна-музычнага, таксама і палітычнага вырастуць у добрых опэрных актараў, здольных выконваць вядучыя партыі самых складаных опэр. Тут можна назваць студыйцаў: Александроўскую, Баначыч, Балоціна, Васюковіч, Дзянісава, Кроз, Каліноўскага, Пігулеўскага, Русіна, Шапіра, Саліну і інш. Трэба падкрэсьліць недахоп, альбо нават адсутнасьць (на вядучыя партыі) мужчынскіх галасоў, асабліва басоў. Аб гэтым трэба задумацца кіраўніцтву студыі. Ёсьць ядрэнны касьцяк опэрнага хору (асабліва жаночыя галасы) але сярод харыстых ёсьць хвароба „на Шаляпіна і Нежданаву" у горшым выпадку на Карузо. Кожны ўдзельнік харавога ансамблю лічыць няпрыстойным для сябе сьпяваць у хоры. Ад гэтага праца хору пасоўваецца чарапа-



Сцэна з Кармэн

шымі тэмпамі. У гэтай галіне студыі прыдзецца прарабіць вялікую растлумачальную работу. Ёсьць таксама балетны ансамбаль, які зрабіў за гэты час бязумоўныя посьпехі ў справе аўладаньня тэхнікай сваёй вытворчасьці.

Усё пералічанае сьведчыць аб тым, што мы падышлі да вырашэньня пытаньня аб арганізацыі свайго опэрнага тэатру. Адчыненьне опэрнага тэатру, аднаго з н. й больш складаных відаў музычнага мастацтва ў Беларусі, зьявіцца нашай чарговай буйнай перамогай на фронце культурнага будаўніцтва.

На агульным фоне загніваньня і заняпаду культуры ў фашысцкай Польшчы і іншых капіталістычных краінах новы опэрны тэатр у Савецкай Беларусі зьявіцца бяльмом на вачох нашых клясавых ворагаў.

Ужо зараз трэба рашуча ставіць пытаньне перад пісьменьніцкімі і кампазытарскімі арганізацыямі пра забесьпячэньне новага опэрнага тэатру арыгінальным беларускім рэпэртуарам, вартым нашай эпохі вялікіх сацыялістычных баёў і бальшавіцкіх перамог. Адначасова працягваць і далей правільнае пераламленьне ў практыцы ленінскае ўстаноўкі пра скарыстаньне ўсяго лепшага з старога клясычнага рэпэртуару.

**Опэрны тэатр Беларусі патрэбен, ён можа і павінен быць арганізаваны з пачатку другой пяцігодкі ў 1933 г.**

ПЯТРО ГЛЕБКА

# ІНТЭРМЭДЫІ ДА ОПЭРЫ „КАРМЭН“

1.

Дарагія таварышы!
Мы стваралі паказ
не для той,
што апранута ў золата,
публікі—
[illegible] дух і пачуцьцяў
мы несьлі для вас,
для сыноў маладых
маладое рэспублікі.

Вы
прабачыце нам
не дадуманы гэст,
непатрэбную можа
супынку між тонамі,
але разам падымеце
з намі пратэст
супраць тых,
што сьціскалі свабоду законамі.



Арт. Александроўская ў ролі Кармэн

Перад вамі разгорнецца
просты сюжэт:
закахаўся Хозэ ў Кармэнсіту,
каторая
гадавала лятункі
пра волю і сьвет...
Надзвычайна
звычайная будзе гісторыя.

І таму
ня шукайце надзенных ідэй,
пахваліўшы гэрояў
ад пят і да гузікаў,
а бярэце
імклівую радасьць людзей,
што напоўніла сілаю
песьню і музыку.

Разрывайце вузлы
асабовых інтрыг,
каб яны
не заціснулі рытмікі масаў
пад кволенькім пульсам
любоўнай ігры—
вы пачуеце пульс
супярэчнасьцяй клясавых.

Я гадаю,
што вы
запытаеце ўсе:
ці павінна Кармэн
завалодаць увагаю?

Яна іскру,
таварышы,
праўды чаве
абяздоленых,
поўных жыцьцёваю смагаю.

Яна мужна...
Ды зрэшты,
нашто гаварыць?

Каб суджэньняў чыіх,
мае словы ня ўразілі—
прыглядайцеся лепш
да самое ігры,
а пакуль—
адлятайце на крыльлях фантазіі,
уявеце Гішпанію,
сонца,
базар,
каравульную будку,
сыгарную фабрыку,
адыдзеце
гадоў на сто дваццаць назад,
на далёкія вуліцы,
поўныя фарбамі.

Ну,
і так,
пачынаем...
Маэстра,
сьмялей!
Няхай паводкай
рокаты струн разьліваюцца.
Вы гатовы, акторы?
Выходзьце хутчэй.
Запалеце пражэктар!
Заслона ўзьвіваецца.

2.

Упартая хада падзей нязьменна
вядзе далей герояў нашых:
прайшлі яны імкліва авансцэнай,
і напаўцалі долі не дагнаўшы.

Ад інквізітарскіх ярэм турэмных
Кармэн знайшла ў натоўпе паратунак,
тымчасам нечакана і дарэмна
папаў Хозэ ў гэты пастарунак.

Ці то гіронія якіх настрояў,
ці лёс, як кажуць, крыху насваволіў,
але-ж салдат, сапраўды,
стаў героям
насупраць дум сваіх і ўласнай волі.


Рэжысэр Б. Норд
Мастак Л. Зусман

За кратамі ён цешыць сэрца стрэчай
з Кармэн прыгожаю, вясёлаю дзяўчынай,
а з захаду прышоў паволі вечар
і людзям загадаў на адпачынак.

Кармэн знайшла прытул у Лілас-Пасьцьця,
сярод бадзяг бяздомных і галодных,
што пражывалі дні лятункамі пра шчасьце,
што гадавалі гнеў суровы і халодны,

што стромаю маглі навальна рынуць
на гандляроў крывавага чырвонца,
каб зваяваць і нашчадкам пакінуць
хоць месца на жыцьцё пад кругам сонца.

Кармэн з Хозэ таксама хоча стрэцца,
каб выказаць яму сваю удзячнасць,
але-ж дзявочае такое сэрца,
што выведаць яго надзвычай цяжка...

Ды што я стан*ўлюся ў роль прарока?!
Вы знойдзеце і самі праўды зерне.
Паўстане зараз перад вашым зрокам
усімі занядбаная таверна.

Начамі тут, пакінуўшы свой кляштар,
чырвонцы тулячы за пазухаю душнай,
сыходзяцца радком манахі часта
пацешыць жываты свае і душы.

Адсюль—
і пачынаем дзею зноўку...
Я слова вам перадаю, маэстро,
каб вы
аддалі дыспаноўку
і права на пачын—
аркестру!


Сцэна з Кармэн

ЗЬМ. ПАВАРОТНЫ

# Дарогу дарозе

Тут таксу ўстанаўляе надвор'е. Самая нізкая зімою. Улетку падвышаецца на рубель—два. У размыленую вясну і дажджыстую восень сядак заплоціць у два разы больш, мала ў два—у тры... Толькі-б ехаць, толькі-б дабрацца...

У Ходасах, на станцыі, падводчыкі валтузяць ва ўсе бакі пасажыра, як рыба—белякі кінутую ім скарынку хлеба. Кожны на перабой упэўнівае, што ў яго сядзеньне намошчана мякчэй, як у другіх, і што яго конь ужо тут на станцыі, чакаючы цягніка, зьеў „з дваццаць хунтаў" аўсу. Не супрацівайцеся ўтрымаць свой чамадан. Даведаўшыся, што вам трэба ў горад, які-небудзь падводчык жывасілам возьме з вашых рук вашы рэчы і накладзе на сваю мажары.

Ад Ходас да Мсьціслаўля нешта кілёмэтраў з дваццаць. Некалькі сажняў коні дружна прабягуць. Яшчэ не пасьпее адыйсьці ад станцыі цягнік, як гнядыя, што цягнуць доўгі і цяжкі паязд, на якім у чатыры рады сядзіць дванаццаць чалавек, сьцішаюць ход, пераходзяць на самую меншую скорасьць. Саюзтрансаўскі падводчык Міша падмошчвае сабе пад галаву нейкі рызмак і засынае.

Гнядыя самы добра ведаюць кожны мэтр гэтай дарогі ды ідуць, як умеюць. Цяжка перакідаюцца мажары з выбоіны ў калдобіну, хаваюцца колы ў глыбокіх лужынах за самыя калодкі, захлынаюцца.

Вёрсты, як мілі—яны цягнуцца вечнасьцю. Праехалі яшчэ толькі ну можа дзьве вярсты, а маладая жанчына з чорненькай і надутай, як жук, цзяўчынкай (па размовах і клумках ня цяжка здагадацца, што яна едзе сюды „на дачу") ужо некалькі разоў пыталася, ці шмат праехалі і колькі яшчэ засталося.

Нудная язда хіліць людзей у сон. Яны шырока разяўляюць раты, нібы зьбіраюцца адкусіць палавіну вялікага яблыка і злуюць на саюзтрансаўскага падводчыка.

— Міша, га, Мішка! — так будзяць седакі падводчыка, — можа-б ты глядзеў на коняй.

Не падымаючы галавы з рызмана, тузане Міша за ляйчыну, ды зноў сьпіць.

— Міша, га, Мішка...

— Што ён начамі робіць?

— Ласкавы толькі пакуль пасадзяць і грошы наперад возьмуць...

— Полнейшее безобразие, подводчик, ...пошевелите своих корнаухих...

Як вялікі і косы дождж у вакно — так барабаняць гэтыя рэплікі падводчыку ў вушы і Міша падымае галаву. Тонка сьвіснула сырамятная пуга, нацягнуліся лейцы, як струны, з гары пабеглі коні. Адны мажары тарарахкаюць за цэлы абоз. Людзі падскакваюць бы тыя гарбузы, дабрэюць і ўжо менш злосна просяць Мішу ехаць цішэй.

Падводчык зноў сьпіць. Так коні ня прыстануць і дарога робіцца карацейшаю. Хліпае пад коламі гразь, далёка разьлятаюцца брызгі ад капытоў.

У заднім раду сядзіць чалавек у шырокім дарожным плашчы і сьмешнай жаўтаватай шапцы з тоненькай асінавай стружкі. Гэта дырэктар садова-агароднага трэсту. Ён адгароджвае саломаю свой бок ад удараў машарнай бакавіны і нічога не гаворыць пра боль і ня злуе. Дырэктар расказвае пра вялікі мсьціслаўскі садова-агародны саўгас Лютня-Бобрыкава, у якім кожны год прападаюць без спажыўца вазы сочных памідораў, пахучай маліны і другіх ягадаў. Прападаюць таму, што нельга іх падвезьці на вакзал.

— Была-б тут шаша,—марыць дырэктар,—даў-бы саўгасу дзьве—тры паўтаратонкі і вазі на здароў'е. Увечары зьнятая маліна праз трыццаць хвілін была-б на станцыі, а раніцою яе—сьвежую і непаціснутую—маглі-б купляць у Менску.

Пакуль што паўтаратонкі ёсьць толькі ў МТС. У лепшыя летнія дні яны ходзяць на вакзал і тады саюзтрансаўскія падводы нагружаюцца цяжкімі скрынкамі, жалезам ды іншым грузам.

Зачэпленае дырэктарам дарожнае пытаньне пашыраецца і павялічваецца. Пра яго гавораць усе седакі. Мясцовыя, гарадзкія кажуць, што дарога Ходасы-Мсьціслаўль была два гады на дзяржаўным бюджэце. Яе ўжо скрозь расплянавалі. Паклалі трубы, пабудавалі масткі, распачалі падвозіць гравій.



**Харкаў. Аўтазборачны завод выпускае першую партыю мотоцыкляў савецкай конструкцыі**

У гэтым годзе будаўніцтва дарогі пераведзена на мясцовы бюджэт. І многія ўжо насьмешліва кажуць, што пройдзе яшчэ дзьве пяцігодкі, пакуль Мсьціслаўль пабудуе сабе праежджую дарогу.

Міша больш ня сьпіць. Ён услухоўваецца ў размову пра дарогі. Ён завідуе тым падводчыкам, якія езьдзяць па новых, нядаўна пабудаваных шашох, пра якія цяпер гавораць яго седакі. Міша, выбраўшы ўдалую мясьціну, сам нясьмела ўкліняецца ў размову. Ён кажа:

— А колькі праехала па гэтай дарозе людзей?!. Нязьлічаная уйма! Цэлыя доўгія цягнікі. Толькі тыя, якіх я перавёз, каб палажылі па камню, дык паўдарогі утрамбавалі-б... Яйбогу...

Рагочуць усе, ухмыляецца і Міша. Ён сказаў зусім проста і мо' сам таго ня ведае, як хораша ён сказаў... Кожны ходзіць і езьдзіць па дарогах. І ой як патрэбна нашаму дарожнаму будаўніцтву, каб гэты „кожны" паклаў некалькі камняў у разьежджаныя, разбуханыя „расейскія" прасёлкі і бальшакі.

Вялікая краіна саветаў перасечана мільёнам чатырыста восемдзесят тры тысячы шэсьцьсот кілёмэтраў дарог. З гэтай колькасьці — усяго толькі 2,7 проценты дарог з цьвёрдым пакрыцьцём. Агульная працягласьць дарог у БССР — 66.700 кілёмэтраў.

Дарогамі вышэйшага гатунку зьяўляецца асфальт і бэтон. У 1931 годзе Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты мелі асфальта-бэтонных дарог 3.104 *км*. Такіх-жа дарог па ўсім нашым Саюзе ўпяршыню ў тым годзе пабудавана 27 *клм*.

Нашы разьбітыя, калдобінныя „бальшакі" і „прасёлкі" — як і многае іншае, няпрыемная спадчына дзікунства мінулага. Царская Расія будавала дарогі „тэмпамі" у 22 разы ніжэйшымі за французкія і ў 16—за ангельскія.

Краіна сацыялізму павінна і будзе мець добрыя дарогі. Наш лёзунг—шырэй дарогу добрай дарозе. У 1931 годзе намі пабудавана 17.000 *клм* новых аўтамабільных дарог, а ў заключным годзе першай пяцігодкі ў фронт разгорнутага сацыялістычнага наступленьня ўключыцца яшчэ 87 тыс. *клм*.

Нашы дарогі далёка адсталі ад агульнага росту краіны і запатрабаваньняў народнай гаспадаркі. Бездарож'е штогодна зьядае сацыялістычныя мільярды. У 1929 годзе наша Савецкая краіна страціла ад бездарожжа два мільярды руб. Гэта цэлых чатыры магнітабуды. І гэта толькі за адзін год.

Размах нашага росту, уся абстаноўка нашага будаўніцтва патрабуюць хуткага выраўненьня дарожнага вучастку. Тэмпы дарожнага будаўніцтва ўжо нарастаюць з году ў год. У 1932 годзе ўпецярым нашы тэмпы ў параўнаньні з трыццаць першым. Другая пяцігодка вызначае аднэй з краявугольных задач—ва многа раз большы размах дарожнага будаўніцтва і рост бязрэйкавага транспарту.

У 1932 годзе Савецкі Саюз, яго дарожна-будаўнічыя арганізацыі будуць змагацца за поўнае асваеньне укладаў у дарожную гаспадарку ў 820 млн. руб. Працоўны ўдзел насельніцтва—гэта невычарпальная крыніца сіл і магчымасьцяй для бальшавіцкіх перамог у барацьбе за добрую дарогу—павінен даць натуральны эфэкт у 380 млн. руб.

У 1931 годзе працоўны ўдзел у дарожным будаўніцтве застаўся ў вялікім даўгу. Па БССР, напрыклад, плян працоўнага ўдзелу насельніцтва выканан толькі на 52 проц. Першымі ў Савецкім Саюзе ідуць Чувашыя і Марыйская вобласьць. Імі працоўны ўдзел даведзен да 130 проц. Леташнія перадавікі БССР—Полацак, Чэрвень, Асьвея, Дрыса. Беларускі камсамол за двухтыднёвік барацьбы з бездарожжам уклаў у дарожнае будаўніцтва каля 40.000 працадзён. Але ўсё гэта мала і не задавальняе патрэб краіны.

Краіна сацыялізму на ўсіх вучастках жыцьця выходзіць на перадавыя лініі. Нам трэба ў максымальна кароткі час дагнаць і абагнаць капіталістычныя краіны ў тэхніка-эканамічных адносінах. Савецкія рэспублікі будуць мець самыя ўдасканаленыя ў сьвеце шляхі і сродкі сувязі і зносін.

...Дарога простая, роўная, бясконцая. Як сьветавая лінія далёкага пражэктару ў цёмную ноч, ляціць яна ў бязьмежныя прасторы і сваім нябачным вастрыём хаваецца ў сінім акрайку неба. Узгоркі праразае дарога адточаным мячом, нізкія месцы, лугі і даліны праскаквае ўтрамбаванымі насыпамі, грэблямі, мастамі.

Дарога сьвежая, юная, румяная. Абапал ярка жоўты пясок і высокія „дзяды“ з чорнымі шапкамі. Гэта арыгінальна-прымітыўныя даведкі аб выкусанай лапатамі зямлі. Яны, як каравульныя, вартуюць гэраічную працу людзей, юнасьць першакляснай дарогі, учарашнія выбоіны і „чортавы вокны“ на гэтым старасьвецкім, як заімшэлая капліца, „кацярынскім“ бальшаку.

Мякка коціцца „фордзік“. Ён молад, як і гэта новая смалою і нафтай пратлушчаная шчабнёўка. У яго паслужным сьпісе—на кругленькім аўтаматычным вымяральніку толькі яшчэ 200 кілёмэтраў нясьмелай дзіцячай хады па маскоўскіх вуліцах і тройчы па столькі дарогі ў Менск.

Машыну вядзе старшыня аўтадараўскага праўленьня. На чорным стырнавым коле напрактыкавана ляжаць рукі. Сыстэмаю каленчатых вагарыкаў і храманікелевых шасьцяронак гэты вадзіцель прабуе машыну, прымушае карданны вал і дыфэрэнцыял рабіць то большую, то меншую колькасьць абаротаў. Вадзіцель правярае ход машыны, як манэўранасьць і спрыт, трываласьць каробкі скорасьцяй.

Уключан пяршачны вал. Аўтамабіль ідзе з найменшай скорасьцю. Паваротам вагарына ўключаецца паўторны вал. І машына прыгінаецца да зямлі, насечкамі гумавай пакрышкі нібы вострымі кіпцюрамі ўпіваецца ў каменную адзежу дарогі. Аўтамабіль, як кошка, робіць нарастальны скачок, спаборнічае з птушкамі, пераганяе вецер.—Восемдзесят,—кажа вадзіцель, глянуўшы на ўтаматычны вымяральнік. Цяпер уключан контшафтавы вал і машына ідзе трэцяй скорасьцю.

І тады здаецца, што чорная кропка крытага „фордзіка“ пахаладзеўшы, стаіць на месцы, а прасторы і лясы, узгоркі і даліны самі ўперагонку бягуць да людзей.

Такімі дарогамі, нашымі савецкімі амаўкамі, яраслаўскімі, амэрыканскімі „фордзікамі“, „бюікамі“, „шэўроле“ заваяваны кілёмэтры, перамагаецца прастора і час.

Па новай, нашымі рукамі пабудаванай дарозе, аўтамабіль разьвівае крайнюю шпаркасьць, хаваецца з вачэй, нібы прызёмным лётам каршак.

Тады вы ў палоне шчасьлівага хвалява ньня. Вас ахапляе глыбокая радасьць. Вы часьцей чуеце прыемны гуд матору, вы бачыце, як вялікі Саюз садзіцца са савецкі аўтамабіль. І гэтых аўтамабіляў—рушыцца цэлая лявіна, магутная калёна, бурная веснавая паводка.

Памешчыцка-буржуазная Расія за пяць год (1910-1915 г.г.) выпусьціла на рускабалтыцкім заводзе ў Рызе 451 машыну. Дзевяноста ў год. Адну машыну за пяцідзнеўку. Такавы былі, з дазволу сказаць, тэмпы „матушкі... Расеі“.

Да вайны ўся былая руская імпэрыя—ад вярхоўя Віслы да далёкіх ціхаакіянскіх берагоў — мела толькі 9.930 аўтамабіляў. Па дарогах вольнай краіны Саветаў ужо ў 1926 г. хадзіла 18.746 машын. У 1931 г. армія бязрэйнага транспарту мела 45.723 аўта-адзінак. Апошнія дні першай пяцігодкі будзем браць на двухстах тысячах аўтамабіляў розных марак. Большая палова іх будзе цалкам нашых, зробленых рукамі савецкіх ударнікаў на савецкіх аўтагігантах і з савецкіх матар'ялаў. У трэцім годзе пяцігодкі сышло з савецкага канвэеру 20.000, а ў заключным годзе сыйдзе 78.000 новых зялёных грузавікоў, галубых аўтобусаў і вёркіх „фордзікаў“.

Гэта вельмі яшчэ мала ў параўнаньні з тым, што маюць капіталістычная Эўропа і „краіна даляраў“. Сусьветным аўтамабільным перапісам у мінулым годзе было зарэгістравана 35.810.768 машын усіх тыпаў. З іх у Амэрыцы 28.788.238 штук; у Эўропе—6.987.472, а рэшта падае на ўсе астатнія краіны і дзяржавы земнай кулі.

Пэрад гэтымі васьмізначнымі лічбамі-коласамі савецкія дзьвесьце тысяч здаюцца маленькімі няпрыкметнымі. Але гэта толькі так здалёку, з вонкага боку пры абыякавым разглядзе. Падыйдзіце бліжэй. Угледзьцеся. Наша шасьцізначная скромная колькасьць аўтамабіляў энэргічна ўступае ў барацьбу з эўропэйска-амэрыканскімі коласамі, перамагае іх, абганяе іх, пакідае ззаду.

Адгарнеце назад толькі два гады. 1930. Маленькую манастырку абкружалі тады гнілыя балоты, пяскі, пакрыўджаны хмызьняк. Прышлі людзі з невялірамі ды іншымі прыборамі. Вымяралі, ставілі ахварбаваныя колічкі, запісвалі, вылічалі. Потым прыехала трыццаць тысяч рабочых, тэхнікаў, інжынэраў. Тут многа было выдатных замежных спэцыялістаў з сусьветнымі імёнамі і вялікай славай. Тут быў і сам містэр Брайант, прэзыдэнт амэрыканскай аўтамабільнай фірмы „Осьцін і К-°“.

Першага студзеня 1932 году, у вызначаны партыяй тэрмін, Ніжагародзкі аўтагігант імя Молатава ўступіў у строй бальшавіцкай кагорты сацыялістычнай індустрыі. За 18 месяцаў збудован першаклясны аўтамабільны гігант, суперніка якому няма на зямлі.

Самы вялікі фордаўскі завод у Канадзе ў часе свайго росквіту мог выпускаць у год 110 тысяч аўтамабіляў. Савецкі Ніжгародзкі аўтагігант будзе даваць 140 тысяч грузавых і малалітрашных аўтамабіляў, а ў другой пяцігодцы яго гадавая вытворчая праграма будзе даведзена да 200 тысяч машын.

Маскоўскі „АМО“ стаў сацыялістычным аўтагігантам імя Сталіна. Да рэканструкцыі стары маскоўскі заводзік даваў ў год 3.500 машын. Занава адбудаваны, абсталяваны самымі навейшымі і ўдасканаленымі варштатамі, першаклясны сталінскі аўтагігант сёньня дае кожны дзень 70 „амавак“, а ў 1933 годзе выпусьціць 70 тысяч грузавых машын і пасажырскіх аўтабусаў.

З маленькіх рамонтных майстэрань расьце трэці аўтагігант—Яраслаўскі завод. У другім годзе першай пяцігодкі яраслаўскія аўтарамонтныя майстэрні маглі даць краіне толькі 208 грузавых машын. У бліжэйшыя-ж гады вытворчая гадавая магутнасьць заводу будзе даведзена да 20 тыс. шматтонных „ярославак“.

Гэта толькі першыя савецкія гіганты аўтамабільнай прамысловасьці, пабудаваныя для таго, каб „пасадзіць СССР на аўтамабіль“. Гэта грозны пачатак бурнага насычэньня краіны бязрэйкавым маторным транспартам.

Аўтазаводаў будзе дзесяткі. Яны вырастуць на новых, цяпер пустых і малалюдных прасторах. У другой пяцігодцы рост аўтапарку будзе праводзіцца такімі тэмпамі, каб ужо ў 1937 годзе ў яго ўліць мільён новых уласных аўтамабіляў і 160 тыс. савецкіх трактараў. А ўсяго да канца другой пяцігодкі разьмеры нашага аўтапарку дасягнуць 2.300 тыс. машын.



**Укатка дарогі.** **Фото С. Грына.**

Аўтамабільны кароль Форд у 1929 годзе ў газэце „Нью-Ёрк Таймс“ пісаў: „Можа быць СССР патрэбна столькі-ж аўтамабіляў, як і Амэрыцы? Не! СССР мае патрэбу ў большай колькасьці і няма ніякіх прычын для таго, каб ён ня змог вырабляць і экспліёатаваць іх—гэта толькі пытаньне арганізацыі і часу“.

У гэтым містэр Форд не памыляецца. Яго прызнаньне—ня вынік вялікай сымпатыі і любві да пралетарскай краіны Посьпехі нашага будаўніцтва, рост сацыялізму прымушаюць людзей з другога берагу гаварыць пра Савецкі Саюз мовай праўды.

У горадзе Дэтройце, сталіцы Форда і цэнтры амэрыканскай аўтамабільнай прамысловасьці, у лепшыя для капіталізму часы, на аўтамабільных заводах Форда, Пахара, Дожда, Кадійяка і другіх прызнаных і няпрызнаных „каралёў“ былі заняты сотні тысяч рабочых, выпускаліся сотні тысяч машын. У аднаго толькі Форда працавала 100 тысяч чалавек. Цяпер-жа на фордаўскіх заводах застаўся толькі адзін з дзесяці... Дзьвесьце тысяч дарослых мужчын у Дэтройце бяз працы і, вядома, бяз хлеба і кватэр.

У 1931 годзе усе амэрыканскія заводы разам выпусьцілі аўтамабіляў у 18 раз менш, чым у 1929 годзе.

Такавы адваротныя тэмпы, такава дынаміка іх „росту“.

Такавы горкія цьв ткі сусьветнага эканамічнага крызісу.

.. Наша краіна насычаецца маторным транспартам. Савецкі Саюз садзіцца на савецкі аўтамабіль і аўтамабіль ня можа, ня мае права, не павінен хадзіць па „расейскіх“ разьбітых дарогах. Кожная новая выпушчаная „амаўка“ патрабуе сустрэчы яе новымі вучасткамі цьвёрдых шляхоў, патрабуе сабе шырокага і надзейнага праезду.

.. Па ўдасканаленай новай дарозе „фордзік“ разьвівае найбольшую хуткасьць. Вось толькі што машына праз Ляхаўку выскачыла з гораду, перасекла чыгуначнае палатно, далёка застаўся рабочы пасёлак „Камінтэрн“. Хутка праскочылі кілёмэтры новай, гладкай, як асфальт, дарогі. А там пад Сьвіслачамі ля колічка прыбіта дошчачка з надпісам. Літары дажджом вымыты, разьбегліся. Асобныя значкі зусім прапалі Усё-ж можна прачытаць „Праезд яма“.

Дошчачка стаіць у канцы новай шашы і як міліцыянэр узьнятай рукою паведамляе, што далей праезду няма. Тут канчаецца аўтамабільны тракт і далей—дарога—яма. Людзі вылезьлі з машыны, а вадзіцель хацеў яшчэ у легцы праехаць па выбоях—па новага дарожнага вучастку. Калёсы танулі ў ліпкую гразь, як у бяздоньне. Зьнікла спакойная музыка матору. Фордзік стогне, кашляе перагарам, буксуе, просіцца як жывы. Людзі за калені лезьлі ў халодную веснавую гразь, на руках вывозілі машыну на цьвёрды грунт.

Воддаль, прабіраючыся па сьлядох, праз луг, едуць дзьве сялянскія падводы. У запрэжках вялікія і дужыя коні. Пусьцілі іх па добрай дарозе—цэлую хату павязуць. А тут яны ледзь цягнуць невялічкія паязды, на якіх сядзіць па адным чалавеку.

— Адкуль едзеце, дзядзькі?—пытае голасным голасам дарожны тэхнік гэтага вучастку тав. Крамнёў.

— З калгасу, з „Дзяржынскага“... у горад.

— А чаму не падымаецеся на шашу.

Пажылыя дзядзькі з калгасу „Дзяржынскага“ зьдзіўлена пераглянуліся паміж сабою і нічога не маглі адказаць.

— Чаго гразь топчаце,—пытаюся,—парушыў маўчаньне дарожны тэхнік,—сюды вярніце, на сушэйшае...

Падводы узьехалі на новую дарогу. Дзядзькі расказвалі, што па іх ваколіцах усе гавораць аб тым, што дарога адкрыта, але праезд па ёй „для вольных“ забаронен...

Падводы лёгка ехалі па шчабнёўцы. Дзядзькі стрымліва ўсьміхаліся ад прыемнасьці і коні ня пудзіліся і ня лезьлі ў гразь, калі паўз іх мільгануў „фордзік“.

———

Краіна саветаў павінна і будзе мець добрыя дарогі. Аўтамабілю, трактару, калгаснай падводзе трэба даць людзкі праезд. Мы ня можам больш траціць мільярды ад бездарожжа.

Заключны год пяцігодкі павінен быць упісан у гісторыю сацыялізму і новымі тысячамі добрых аўтамабільных дарог. Удзел і энтузіязм шырокіх працоўных мас у дарожным будаўніцтве можа і абавязкова павінен быць паявлічан у некалькі разоў. У месячнік дарожнага будаўніцтва, які нам праводзіцца ў міжпараны час, трэба будаваць добрыя дарогі, а не гаварыць пра бездарож. Аўтамабілізацыя краіны патрабуе, каб кожны працоўны быў актыўным аўтадораўцам і энтузіястам дарожнага будаўніцтва.

І тады Плэшчаніцы, Бягомль, Чэрвень, Бярэзіна, Мсьціслаўль, Капыль ня будуць „беларускімі камчаткамі“, куды можна даехаць толькі саннай дарогай. Тады (а гэта зусім недалёка) па шляхох будзе менш надпісаў „праезду няма“ і аўтамабіль пасьля першага разгону ня будзе буксаваць і прасіцца ў ліпкай гразі. Два—тры мільярды, якія штогод трацяцца намі ад бездарожжа, пойдуць на новыя аўтагіганты, на новыя сотні тысяч кілёмэтраў удасканаленых дарог. Чырвоныя памідоры і сьвежая маліна з саўгасу Лютня-Бобрыкава раніцою будуць у Менску.



Нагрузка шчэбеню. Фото С. Грына.

# ЗРОБІМ ФІЗКУЛЬТУРНА-МАСТАЦКУЮ ЛІТАРАТУРУ ДА СУСЬВЕТНАЙ СПАРТАКІЯДЫ

М. ЧЫШЭВІЧ

„Нам патрэбна вырасьціць новае пакаленьне рабочых здаровых, жыцьцярадасных, здольных падняць магутнасьць савецкай краіны і абараніць яе грудзьмі ад пакушэньня з боку ворага“.
Сталін.

Пралетарыят Савецкага саюзу ў 1933 годзе сьвяткуе перамогу першай бальшавіцкай пяцігодкі. Савецкія фізкультурныя арганізацыі парашылі правесьці ў 1933 г. сусьветную спартакіяду ў гонар перамог пяцігодкі. У спартакіядзе, якая адбудзецца ў Маскве прымуць удзел рэвалюцыйныя фізкультурныя арганізацыі усяго сьвету. Савецкія фізкультурнікі прадэманструюць дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва, дасягненьні савецкай фізкультуры на аснове комплекса „Гатоў да працы і абароны“. Наша сьвята пакажа ўсю тую працу, якая праароблена рабочай клясай і працоўнымі Савецкага саюзу на працягу пятнаццаці год існаваньня савецкай улады.

Беларуская фізкультурная арганізацыя мае шмат дасягненьняў у галіне падпарадкаваньня сваёй працы ўсім тым задачам, якія на сёнешні дзень высунула перад намі партыя і савецкая ўлада.

Фізычная культура заняла пачэснае месца ў працэсах вытворчасьці. На прадпрыемствах Беларусі маецца больш трохсот фізкультурных гаспадарча-разрахунковых брыгад, якія сыстэматычна выконваюць і перавыконваюць вытворчыя праграмы.

У сучасны момант Беларусь па здачы іспытаў на значок „Гатоў да працы і абароны“ за апошні год заваявала першае месца ў саюзе.

---

Адзін з недахопаў фізкультурнай арганізацыі гэта тое, што мы ня маем сваёй беларускай фізкультурнай літаратуры. Калі маецца некалькі кніжак па мэтодыцы ФК працы, дык няма ніводнага мастацкага твору, які-б выяўляў жыцьцё і працу фізкультурнай арганізацыі.

Праўда ў Беларускай мастацкай літаратуры ёсьць некалькі вершаў, у якіх паказана фізычная культура, але паказана слаба. Усё, што там напісана, не зьвязана з агульнымі задачамі, не паказана роля фізычнай культуры ў падняцьці вытворчасьці працы і падрыхтоўцы працоўных да працы і абароны краіны. Нам патрэбна ўзяць прыклад з Ленінграду і Масквы—стварыць самім мастацкую літаратуру, даць п'есу і сцэнары на фізкультурна-вытворчую тэматыку.

Да сусьветнай спартакіяды беларуская савецкая пісьменьнікі павінны даць твор, у якім былі-б паказаны лепшыя фізкультурнікі, героі вытворчасьці, фізкультурнікі лепшых байцоў Чырвонай арміі, было паказана і змаганьне усёй беларускай ФК арганізацыі за 150.000 армію арганізаваных фізкультурнікаў, за 35.000 працоўных, якія поўнасьцю здалі-б іспыты на значок „Гатоў да працы і абароны краіны“. У сваю чаргу трэба паказаць гісторыю разьвіцьця фізкультурнага руху за 15 год існаваньня савецкай улады. Партыйна-камсамольская нарада пры ЦК КП(б)Б па фізкультуры ў дастатковай меры адзначыла недахопы нашай літаратуры, адзначала тое, што на яе старонках ніводнага радку не напісана пра жыцьцё фізкультурнікаў, пра дзейнасьць фізкультурнай арганізацыі. Трэба савецкім пісьменьнікам улічыць гэты недахоп і даць так востра патрэбны твор. Фізкультурнікі чакаюць.

Будзем выхоўваць моцнага, здаровага новага чалавека, будаўніка сацыялістычнай грамады, надзейнага вартаўніка бацькаўшчыны пралетарыяту. І так за працу.



# ШАХМАТЫ № 12

Пад рэдакцыяй Я. Е. Камянецкага

Друкуюцца ўпершыню раз



Задача № 69

**Н. Е. Ратнікаў** (Ворша)

Мат у 2 хады



Задача № 70

**Я. Е. Камянецкі** (Менск)

Мат у 2 хады

## БАЛЬШАВІЦКІЯ ТЭМПЫ

### Шах-шаш руху ў БССР

**(Артыкул заг. ш-ш сэктара ВСФКБ т. Губчэўскага)**

Вывады абгляду становішча ш-ш работы ў Беларусі брыгадай ВСФК СССР канстатуюць аб тым, што становішча ш-ш руху далёка нездавальняючае. Гэта-ж пацьвердзіў прэзыдыум ВСФКБ і ш-ш сэктар ВСФК Саюзу.

Зараз усёй ш-ш арганізацыі Беларусі неабходна з усёй сур'ёзнасьцю падыйсьці да справы ліквідаваньня сваіх недахопаў, неабходна вывесьці ш-ш арганізацыю з прарыву з тым, каб прысьці да Сусьветнай Спартакіяды, выканаўшы і перавыканаўшы ўсе кантрольныя наметкі ВСФК Саюзу.

Неабходна з усёй рашучасьцю ўдарыць па панукчай у радзе райсаветаў і асобных работнікаў па фізкультуры недаацэнкі шахматна-шашачнага руху, як магутнага сродку ўцягненьня працоўных у сацыялістычнае будаўніцтва, у агульнае культурна-палітычнае жыцьцё.

Паасобныя РСФК яшчэ і да гэтага часу не скарыстоўваюць шахматы і шашкі, як сродак уцягненьня дарослых рабочых у фізкультуру. Усе фізкультурныя арганізацыі павінны прыняць сапраўдныя меры да забесьпячэньня разгортваньня шахматна-шашачнай работы. Неабходна асыгнаваць на гэта патрэбныя сродкі.

ВСФКБ павінен паказаць усім РСФК на неабходнасьць пераломy ў адносінах да шахматна-шашачнай справы і ў першую чаргу Віцебскаму і Гомельскаму Саветам Фізкультуры, якія і да гэтага часу праяўляюць поўную бязьдзейнасьць у рэалізацыі пастаноў VII-га Усесаюзнага ш-ш зьезду і ВСФКБ.

Асабліва важнай задачай для ш-ш арганізацыі БССР зьяўляецца: узмацненьне і арганізацыя ш-ш сэкцый у самых калектывах фізкультуры. Не павінна быць ніводнага фізкультурнага калектыва, пры якім бы не існавала ш-ш сэкцыя.

У сувязі з гэтым, пытаньне вучоту і інфармацыі набывае вялізарнейшае значэньне. Неабходна ліквідаваць безадказнасьць у гэтай справе шэрагу працаўнікоў.

Адсутнасьць належных кадраў і іх незабясьпечанасьць у значнай меры шкодзяць пэратварэньню ш-ш арганізацыі ў шматтысячную арганізацыю.

ВСФКБ і мясцовыя саветы фізкультуры павінны дапамагчы ў справе падбору кадраў з тым, каб усю працу праводзіць

ЦАНА 15 КАП.

Ш-ш арганізацыя павінна яшчэ больш наблізіцца да фізкультурнай арганізацыі, удзельнічаць ва ўсіх мерапрыемствах, якія праводзяцца ФК арганізацыяй. Да 1-I—1933 ня менш 35 проц. усіх арганізаваных шахматыстаў павінны быць ахоплены здачай норм на значок „Гатоў да працы і абароны“. Усё гэтае яшчэ больш наблізіць ш-ш арганізацыі да фізкультуры і зробіць яе сапраўды складанай часткай агульнай сыстэмы савецкай фізычнай культуры.

Наладжваньне агітмасавай работы вакол шахмат і шашак, асабліва зараз, у пэрыяд неабходнасьці шырокага росту і падрыхтоўкі да Ўсебеларускага ш-ш зьезду мае вялізарнае значэньне.

## Падрыхтоўка да ш-ш зьезду

**Менск**

У Менску шырока разгарнулася падрыхтоўчая работа да зьезду.

Масавыя агульна-гарадзкія шахматна-шашачныя спаборніцтвы, праведзеныя пасьля ш-ш спартакіяд на прадпрыемствах ахапілі каля 200 чалавек. Ігра праходзіла па групах,— пяць чалавек у кожнай. Пераможцы груп склалі фіналы на пяршынство гораду па шахматах і шашках.

75 проц.—удзельнікаў спаборніцтваў—рабочыя з прадпрыемстваў. Падпіскай на пазыку ахоплены ўсе ўдзельнікі на 109 проц. месячнага заробку.

Фінальныя спаборніцтвы па шахматах і шашках на пяршынство гораду распачаліся 1-га ліпеня.

У турніры па шахматах удзельнічаюць наступныя т. т. (у парадку жрэбія). 1. **Клімбоцкі** (абутковая фабрыка), 2. **Кузьмінскі** (Чырв. крыж), 3. **Маўцэка** (Дынама), 4. **Камянецкі**, 5. **Зубец** (Дынама), 6. **Клейн** (з-д „Бальшавік“), 7. **Эцін** (з-д імя Варашылава), 8. **Шрайбман** (Наркамснаб), 9. **Гаві**, 10. **Бабурын** (Белрадыёцэнтр), 11. **Эйдэльман** (Аўта-Дарожны Учебны Камбінат), 12. **Тучкоўскі** (з-д імя Молатава), 13. **Прупэс** (ф-ка „Кастрычнік“), 14. **Шэвельман** (Наркамснаб), 15. **Насьцюшонак** (ГСРК) і 16. **Касьперскі** (Белкалгасбуд).

Пасьля 8 тураў уперадзе ідуць: **Бабурын** + $6\frac{1}{2}$ з 7 (1 няскончаная), **Насьцюшонак** + 6 з 6 (2 няскончаныя), **Камянецкі** + 6 з 8.

### Па ВСФКБ

Для правядзеньня падрыхтоўчай работы да Ўсебеларускага ш-ш зьезду пры ВСФКБ арганізован аргкамітэт у складзе т. т. **Р. Гольдзбэрг** — старшыня, **П. Губчэўскі** — нам. старшыні, **Зубец, Кейлес і Мазэль**—члены камітэту.

На апошнім паседжаньні аркамітэту сумесна з ш-ш камітэтам ВСФКБ зацьверджана праграма работы ўсебеларускага ш-ш зьезду:

1. **Аб становішчы і чарговых задачах ш-ш руху БССР** — дакладчык т. Гольдзбэрг.
2. **Задачы арганізацыйнай перабудовы сярэдняга і нізавога зьвяна і работа сэкцыі**—дакладчык т. Губчэўскі.
3. **Пытаньні кваліфікацыі і масавай работы** — дакладчык т. Мазэль.

**Апроч гэтага зьезд аформіць шахматна-шашачныя органы.**

## РАЎНЕНЬНЕ НА ЛЕПШЫЯ ЗВЕНЬНІ ШАХМАТНА-ШАШАЧНАЙ РАБОТЫ БССР



На здымку лепшая гаспадарча-разьліковая брыгада шчотачнай ф-кі імя Крупскай.

Брыгада гэта арганізавалася ў красавіку 1932 года. Першы-ж месяц працы гаспадарча-разьліковай брыгады даў выкананьне прамфінпляну на 110 проц., май даў 119 проц. За перавыкананьне фінпляну брыгада прэміявана Наркамфінам БССР. На пазыку „4-га завяршальнага“ брыгада падпісалася на 130 проц. месячнага заробку.

Апошняй пастановай Выканбюро Аб'яднанага шахматна-шашачнага сэктару ВСФК СССР і РСФСР ад 20 чэрвеня 1932 году гэта шах-шаш брыгада работніц наборачнага цэху шчотачнай ф-кі імя Крупскай і яе арганізатар, рабочы ф-кі „Усход“ т. Кейлес (на здымку: у цэнтры) прэміяваны.

### Папраўка

У задачы № 67, Н. Е. Ратнікава („Ч. Б.“ № 13) на d3 прапушчаны белы конь. У задачы № 68, Віленка, белы кароль павінен стаяць не на b8, а на b7.

## ЗЬМЕСТ:





Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1660. 4000 экз. Галоўлітбел № 601.